БІБЛІЯТЭКА ЧАСОПІСА ***Маладосць***
Выдаецца з 1988 года
Выходзіць 12 разоў у год
МІНСК
Друкарня выдавецтва
«Беларускі Дом друку»
1992

Перад вамі кніга вершаў братоў Анатоля і Васіля ДЭБІШАЎ. Нарадзіліся яны ў 1962 годзе ў вёсцы Шамятоўка Свіслацкага раёна. Абодва скончылі Мінскі інстытут культуры. Жывуць і працуюць у Брэсце. Анатоль — дырэктар Дома культуры, Васіль — выкладчык у вучылішчы.

Хоць яны і блізняты, вершы іх зусім непадобныя. Анатоль больш засяроджаны, схільны да разгорнутай дэталі, тэма сучаснасці ў яго творах цесна паяднана з нашай гісторыяй. Васіль — паэт настрою, ён надзвычай чуйны да сучаснасці, да выяў сённяшняга нашага жыцця.

І Анатоль і Васіль у свой час дэбютавалі на старонках «Маладосці». Сёння да чытача яны прыходзяць пад вокладкай адной кнігі.

**Анатоль ДЭБІШ**

# Калядная вячэра

## I
## МАЛЕНСТВА

У хаце пахне льном і воўнай —
Я духам тым наскрозь прапах.
А ў грубцы танчыць неўтаймоўны
Хлапчук з жарынкаю ў вачах.

На стол матуля ставіць стравы,
Агонь ускінуўся ярчэй.
І засмяяўся хлопчык жвавы
З жарынкамі замест вачэй.

*

Зімовых вечароў сняжок згусцелы
Малітваю сумётаў белапенных
Замружыў дол, як насланнё, імгненна
Свет апрануў увесь у колер белы.

І з нішаў мармуровыя анёлы,
Пакінуўшы свой кут, на дол застылы
Зляцеліся на снег перад касцёлам,
Разветрылі свае цяжкія крылы.

А па кладах, па вуліцах знямелых
У прыцемку згусцелым сутарэнняў
Загойсалі чыесь нямыя цені —

Адны у чорным, а другія ў белым.

Ды ўсё захутаў снегавейны вэлюм,
І ў шале ветру задрыжалі дрэвы,
І да святла памкнуўся дух збалелы,
Дзе чуліся ўначы анёлаў спевы...

*
Майстэрня на вуліцы Скарыны.
Імжыць за акном. Не заснуць.
Прахожых знямелыя спіны
У ноч безупынна плывуць.

На столі маўклівая бэлька
Вяроўкаю цішу сцяла.
Паблісквае цьмяна бутэлька
З пакрытага пылам стала.

І кожнаю жылкаю б'ецца
Адчай аб гарачую скронь.
І смехам цагляным смяецца
У грубцы вар'яцкі агонь.

**КАЛЯДНАЯ ВЯЧЭРА**

Хутка вячэра. Дзень адплывае ружовы
За небасхіл, дзе ў цішы маўчання і стомы
Новы абсяг паўстае, шчэ вачам невядомы,
Ў вечных пакутах нязнанай малітвы і мовы.

У шарым паўзмроку, дзе ўтоены жарты і кпіны,
Дзе ліхтары ў цемры сочаць штохвілю ахвяры,
Вэлюмам чорным хутаюць плечы хаціны,
Духі хаваюць ў кутках свае хцівыя твары.

І здратаваныя душы ляцяць на шпалеры,
Каб у святочных карунках міласці і цуду
Зноўку здабыць сваю моц —
свята тайнай вячэры,—
Дзень наш ачысціць ад зла,
і ад змроку, і бруду.

**СЯЧКАРНЯ**

Кола сячкарні круціць нажы няўмольна,—
Ўсё паглынае у несупынным тым руху —
Травы і кветкі, колеры фарбаў свавольных,
Ператварыўшы у смецце і пацяруху.

Веку і часу майго няўмольнае кола —
Колькі ты лёсаў людскіх і надзеяў змалола
Ў пашчы гісторыі, на раздарожнай мяжы?..

Вось і цяпер рухавік твой хады не збаўляе,
Новыя зёлкі, і травы, і... НАС паглынае...
Кола сячкарні круціць прысуду нажы.

*
І думнасць спраў, і думак чысціня,

І літасць, і двурушнасць, і пакора,
І горшая за краты — дабрыня,
І дзень — як ноч, чарней за плаху — гора.

Тут з праўдай парадніласся хлусня,
Там здрадай падмяняецца сумленне.
Знайсці б мне існасць да пачатку дня
І не паблытаць вечнасць і імгненне.

Сябе знайсці, павязку скінуць з воч —
Каб дзень быў днём, была каб ноччу ноч.

## НОЧ

У шэрых хмарах зорка блісне
І згасне ў поцемку начы.
І гэтак глуха і няісна
Пугач у нетрах пракрычыць.
І стане ціха... У зняменні
Спынюся ў пушчы на імгненне
Сярод замшэлых чорных дрэў
І буду чуць травы шаптанне,
І ў гнёздах — птушак шчабятанне,
І ў вершалінах — ветру спеў.
У думак прывідным палоне
Згадаю родны дом і гоні,
І маці цёплыя далоні,
І на падворку бацькаў крок,
І сад, што ў аксаміце тоне...
Ды ночы воглае бяздонне
Мяне абудзіць незнарок.
І ў шарых хмарах зорка блісне
І згасне ў поцемку начы,
І зноўку глуха і няісна
Пугач у нетрах пракрычыць.

*

Храма нябескія рысы бачу праз кужаль туману,
Ззянне крыжоў між аблокаў, важкую цэглу муроў.
Чую людзей галасы, звонкія гукі аргана,
Песні аб літасці боскай пра час,
што яшчэ не прыйшоў.

Сэрцу спатолі няма... Гоніць удалеч самота.
Можа, у храме збавенне знайду між людзей?
Дзверы адчынены насцеж... Пах парафіну і поту
Цела і ДУХ мой узносіць вышэй і вышэй

Да купалоў і да зор ці да Бога самога
За цеплынёю душы й разуменнем людскім.
Вочы расплюшчу... навокал — нікога:
Сцены, акно і халодная восень за ім.

О, як пакутна ад сну абуджацца на золку,
Ў яву вяртацца, мары аддаўшы на здзек...
Ў небе начным дагарае апошняя зорка...
Зноў да пакутаў зямных крочыць табе,
Чалавек!

## МЕЧ

Халоднае лязо навек з'яднана з целам —
П'е прагна кроў злачыннасці дзіця.
Слязой чырвонай боль па скрутку сталі белай
Сцякае... І вяртае з небыцця

Абуджаныя ў пругкім целе сілы,
Што ў забыцці драмалі столькі дзён.
П'юць вусны кроў... Дрыжаць стальныя жылы —
На полі бітвы нечы стогн чуцён.

Ды ўсё знішчае хуткаплынны час:
Бляск на мячы даўным-даўно пагас
І цела высахла. Ноч крыку больш не чуе,
А меч бязважкі стан усё цалуе.

Не заўважае ён ні часу, ні людзей —
П'е прагны меч густую кроў з грудзей.

## ЧАС

Чэрап счарнелы на мокрым пяску.
Сочыцца час праз імжу няўмольна.
Ноч навакол. На іржавым цвіку —
Кроў. І па ўсім — я ступаю павольна.

Божа, адкуль гэты чэрап і кроў?..
Можа, тут ДУХ мой самотны блукае.
Сочыцца час праз мяне і сяброў.
Нехта па мне неадольна ступае.

*

Восень. Ціша. Ні гуку.
Пахнуць садам платы.
Як жывы грэе рукі
Матчын цень ля пліты.

Нібы горычы вырак,
Стыне ў лужах шаша.
Адлятаюць у вырай
Лісце з дрэў і... душа.

## У СКЛЕПЕ

Тхне бульбай гнілою і згубай з яго сутарэнняў,
Кручаныя прыступкі песцяць душу халадэчай,
У мораку ночы хаваюцца нечыя цені,
Нябачныя духі хапаюць за рукі і плечы.

Ніжэй і ніжэй я спускаюся ў морак ягоны,
Дзе ў сподах шкляных памідоры прыцялі
і слівы,
Дзе ў ціхай аблозе, чакаючы нечага скону,
Павук павуціння расчэсвае дрогкія грывы.

Імгненне... І я са сцяной сутыкнуўся ў цямрэчы.
Празяблай рукою кранаюся чорнай паліцы,

Там — слівы і вішні, а ў слоіку побач —
суніцы.
Ды нехта паклікаў... Той крык прагучаў недарэчы.

Руку я расцяў, нібы стрэмка ўпілася мне ў цела,
І долу душа мая сподам шкляным паляцела.

**ВЕЦЕР**

Ён з жоўтых дрэў зрываў сухое лісце —
Удалеч гнаў і за сабой гукаў.
Па вулцы бег... І не знаходзіў выйсця —
Пад коламі машынаў ён канаў
І паміраў, такі самотна-дужы...
Я на хвіліну запаволіў крок,
Здзіўлены тым, як зыбаліся ў лужы
Мільёны хваль, драбнюткіх, як пясок.

**НА МАЛЬБЕРЦЕ**

Майстэрня. Ноч. І цьмяна ззяюць свечкі.
Мальберт застыў... А толькі поўні кола
свой доўжыць рух на сценах, на падлозе.
Жуе мастак шчэ недаспелы яблык.
Рука яго выводзіць фарбы лета:
маленькіх птушачак, рамонкі, твар дзявочы,
а я чытаю на мальберце: смерць.

*
І тлумна, і сумна навокал.
Хто ў свеце цябе адшукае?
І ветах, жабрак адзінокі,
Тужліва між хмараў блукае.

І толькі далёкія зоры
Карункамі ясак агністых
Пра свет мне нязнаны гавораць
Так мудра, так светла, так чыста.

І раптам небасхіл хіснецца на імгненне
І рухне на зямлю... І ночы чорны пыл
Сутоннем хісткім ляжа на каменні,
На храмы і дамы і на крыжы магіл.

І цемры шары змрок ахутае палеткі...
Ды скрозь імглу і пыл убачу раптам я:
Бурштынам залатым мігцяць сузор'яў кветкі
І воблакам плыве да іх душа мая.

**БАЛАДА ПРА ВОЛАТАЎ**

У змрочным скляпенні, да зданяў падобны,
Сядзіць анямелы, гаротны народ,
Не бачыць ён сонца, бо зыркія промні
Яго не кранаалі каторы ўжо год.

Уночы і ўранні, у свята і ў будзень

Адно толькі знае ён: есці і піць.
Былі гэта колісь магутныя людзі,
Ды вораг аднойчы прыйшоў, каб забіць.

І ўпалі яны перад ім на калені,
Апошнія дзеці магутнай зямлі,—
Спужаліся бітвы і ў змрочным скляпенні,
Дзе холад і цемра, прытулак знайшлі.

Пазбыліся ласкі, вясны і кахання,
І вершаў, і волі, і мовы сваёй.
І памяць згубілі: ні людзі, ні здані —
Бы цені блукаюць яны пад зямлёй.

Па лёхах брыдуць чарадою бясконцай
І жудасным крыкам пужаюць людзей.
Ды! выйсця не знойдуць да волі і сонца —
Каторы ўжо год і каторы ўжо дзень.

Калі нават сонца на міг зіхатліва
У цёмныя норы да іх зазірне,
Прыжмурыўшы вочы, спаць будуць маўкліва
І мроіць пра поўныя міскі ўва сне.

**НАШЧАДАК**

А дзіды прабівалі грудзі,
І кроў лілася на траву.
Шапталі ворагі: „Не будзе
Ён болей жыць...” А я — жыву.

На белым матчыным абрусе
Дзялілі хлеб наш, соль і мёд.
Не жыць, крычалі, Беларусі,
Знік на вякі яе народ.

Гарэў палац... Іржалі коні...
На дол забіты падаў вой.
Чужынцы беглі ад пагоні —
І меч звінеў над галавой.

А сейбіт зноўку сеяў жыта,
Гаіла Беларусь сыноў,
І, тысячы разоў забіты,
Уваскрасаў я зноў і зноў.

*
Ліецца спеў святога хору
Праз пазалоту купалоў.
У ім — ні смутку, ні дакору,
У ім — мілосць жыцця без слоў.

у ім — маленне і каханне,
у ім — святыня і краса.
І грэшных душ выратаванне.
І мрояў-сноў чароўны сад.

І адыходзіць боль пякучы
У небыццё, і вечны рай

Так шэпча: „Ты сябе не мучай,
Ляці і ў песні ўваскрасай”.

Ліецца спеў святога хору
Праз пазалоту купалоў.
У ім — ні смутку, ні дакору,
у ім — мілосць жыцця без слоў.

**РАБ**

Штоночы, калі ў пакоі гасне святло, а за вокнамі
мільёнамі празрыстых светлячкоў успыхваюць
зоркі,
я слухаю ЯГО...
ЁН прыходзіць апоўначы да мяне, сядае
на ўскрай ложка тварам да акна
і пачынае апавядаць,
як у чэраве маці быў ужо асуджаны на смерць
і выжыў толькі таму, што не згадзіўся са сваёй
смерцю
Пра астатняе ЁН маўчыць,
толькі час ад часу паўтарае: „Так трэба...”
Калі на золку ЁН знікае, я заўважаю ЯГО
падабенства са мною:
мае вочы зліваюцца з яго вачыма,
вусны з яго вуснамі,
і тады я міжволі паўтараю за ім:
„Так трэба...”

**КУРАПАТЫ-37**

***І. Аблога***

Ноч халодная... Крыкі і крокі.
Хтось нябачны стаіць за акном,
Нехта змрочны, чужы і высокі
Аж да рання вартуе мой дом.

У пакоі адзін я. Лагодна
Ззяе ветах на небе... Маўчу...
І, прамоклы, худы і галодны,
Безупынку за госцем сачу.

Хвілі часу — бы вострыя спіцы.
Жахам ноч маё поўніць жыццё,
І нябачная воку ігліца
Упіваецца ў сэрца маё.

***2. Уцёкі***

Я, знямоглы, паўзу праз туман
Да святочнай Айчыннай дубровы.
І струменіцца кроў з маіх ран
На імхі і на дол вечаровы.

Жаўрукі не пяюць нада мной.
Толькі мне паміраць яшчэ рана.
Я стаміўся жыць праўдай чужой
Пад уладай забойцы-тырана.

Ды бліжэй да мяне ўсё тыран,

Чую подых яго нада мною.
Я, знямоглы, паўзу праз туман
За жывою ці мёртвай вадою.

### *3. Пакаранне*

Смерці выбраннік, ляжу я на пласе самотны,
Молячы Бога, каб даў мне цярпення і сілы
Цвёрда ступіць у хаўрусную цемру магілы,
Жах і адчай свой змагчы у час гэты смяротны.

Дзень адплываў, дзень крывёй дагараў незваротны.
Чуліся гукі трубы, пахавальныя спевы
Хору дзяўчат маладых... Вецер прагна разносіў
Спеў іх дзівосны па вулках... І гордая восень

Вецце зрывала, у злосці ламаючы дрэвы.
Чуліся крыкі пракляцця, надзеі і гневу.
Даў бы хто крыж — цалаваў бы за маці і веру.
Ды не пачуюць. І кроў на зямлі запяклася...

Не, не мая, а чужая. Ўявіў я сякеру,
Што над маёй галавой ў гэты міг узнялася.
Я не адзін, нас мільёны ляжала на пласе.
Млосна зрабілася. Ногі мае задрыжалі.

„Гэта – усё...” Ў галаве мітусіліся мроі...
З жаху прачнуўся я, кінуўшы коўдру і шалі
Прэч ад сябе... Гэта ж я ахвярую сабою.
Светла і ціха было у халодным пакоі.

Я падышоў да акна... На дварэ была восень.
Дзеці у парку у хованкі дружна гулялі.
Дзед мой прыпомніўся мне...
Каляндарны лісток... 38 —
Год ракавы... Мы вяртання так доўга чакалі.
У трыццаць восьмым — яго расстралялі.
Смерці выбраннік, ляжаў на смяротнай я шалі.

### *4. Нявінныя целы*

У нетрах, між карэнняў траў і дрэў,
Застыў дзявочы смех, жаночы спеў.
Вачэй пустых глядзяць на свет вачніцы,
Ды ім не свецяць зоркі-вечарніцы.

Над імі ноч і цёмны бор шуміць,
І птушкі сон іх песнямі люляюць.
А стрэлы і сягоння не змаўкаюць,
І вусны шэпчуць да нябёсаў: „ЖЫЦЬ...”

### *5. Суд*

...І калі раскапаюць травою зарослыя ямы.—
Выйдуць змрочныя здані да сонца
з халоднай зямлі.
Загалосяць яны, зазвіняць на ўвесь
свет кайданамі
І папросяць у Бога, каб катаў на суд прывялі.
Сотні, тысячы сотняў, мільёны нявінных
ахвяраў,
Што здабычаю сталі знявагі і дзікай маны...
І збялеюць у катаў і ў служак іх

сытыя твары,
І папросяць збавення і літасці ў Бога яны.
Ды адкажа ім Бог: „...Не суддзя вам...
Вось вашыя суддзі.
Ім ваш лёс вырашаць і над вамі
чыніць ім прысуд...”
Нехта крыкне з натоўпу: „Даруйце ім,
добрыя людзі!..”
...І даруе, усё ім даруе падмануты люд.

## II

### ЦЕНІ

У воглым пакоі, у поўні зіхотным мігценні
Па сценах маўкліва блукаюць знямелыя цені,
Брыдуць па пакоі і ў вокнах знікаюць дазвання
Апошнія сведкі няспраўджаных сноў і літанняў.
Вось так і жыццё праляціць у імглістым сутонні,
Бы гэтыя цені, мігне і навечна патоне.
Ды ёсць яшчэ час — час надзеі, вясны і кахання
Для пешчаў шчаслівых, для мараў
і палкіх жаданняў.
Таму і не плачу я ў хвілю тугі і адчаю,
А ў рысах знаёмых сэнс лёсу і існасць шукаю,
І пешчу надзеі, забыўшы на смутак і енкі,
І слухаю крокі прывабліва-юнай паненкі,
Што ў шолаху ночы, у поўні зіхотным мігценні
Вось-вось адплывуць, нібы гэтыя змрочныя цені.

### ЖЫВАПІС

Сярод мноства пачварных істот
і абліччаў знямелых,
Што ў адвечных пакутах зліліся ў адзіны клубок,
Бачу твар нехлямяжы і зыркі пагляд звар'яцелы
Дзецюка маладога і пекную панну ля ног.
І старога нябогі худыя, нязграбныя плечы,
І чужую каханку, і стол, і халодны пакой...
Размаітыя вобразы твараў знямелых і рэчы
Ў зыркіх промнях святла паўстаюць прада мной.
І магічнаю сілаю поўняць маю адзіноту,
І тугу абуджаюць, і жывяць зняверaны дух.
І змяняецца гнеў у душы на любоў і пяшчоту,
Ясным поўняцца сэнсам тут кожная рыска і рух.
І прыходзіць адхланне... І цела, і дух ажывае.
І тады нараджаецца слова святое: „КАХАЮ”.

### ЛЯ ПАБІТАГА ЛЮСТЭРКА

У сонечных промнях узнікла знямелая постаць:
Блакітныя вочы, дзе тояцца боль і журба,
Ні шоўку, ні фарбаў, і гэтак святочна і проста
На чорныя бровы спадае хусцінка з ілба.

Адкуль? Хто такая? У памяці светлай юначай
З якога вытоку яна так выразна ўсплыла?
Мо з гэтай дзяўчынай
страчаў я світанкі над Начай?

Ці ў школе суседкай па парце яна мне была?

Чаму я не помню... На сэрцы так змрочна і пуста.
Так хочацца ласкі, спагады зямной і цяпла.
Знямелай рукою халоднае кратаю люстра...
Нікога.
І толькі —твой смех з-пад пабітага шкла.

**РАССТАННЕ**

Голас учарнелы ляціць праз пустынную вулку,
праз празрыстыя вочы вокнаў,
праз набрынялыя першым вясновым сокам лёхі дрэў
і... разбіваецца аб чорную стужку асфальту.
Пад коламі машыны ў пакутах курчыцца душа.

**ДВА ГАЛАСЫ**

Прысніў яе. Убачыў: ля парога
Стаіць з мяхом чырвонцаў у руцэ.
Усё няўмольней ноч... А навакол нікога.
Здранцвелая рука блукае па шчацэ.
„Ты думаў абагнаць свой тлумны час і век,
Падняцца ў неба сінь вышэй за зоры,
Ды зразумець не змог ты, чалавек:
Ты — толькі цень быцця, каторы
На хвілю з'явіцца — і згасне ў той жа міг,
Не разгадаўшы сэнс жыцця зямнога.

Пакуль ты ёсць, пакуль сярод жывых —
Праз церні і гушчар ляжыць твая дарога,—
Так шэпча мне яна,— пайшлі са мной, нябога!..

О цуд! Я чую голас звонка-срэбны.
Мелодыю яго я недзе сустракаў:
„Прачніся, любы мой! І не крыўдуй дарэмна...
Бач, сонца ўжо ўзышло... Як соладка ты спаў!”

*

Прыйшла... І супыніла часу рух,
І зноўку абудзіла боль таемны,
Мне сэрца паланіла колам рук
І роем мараў-сноў невераемных.

І мы — з табою, сёння мы — адно,
Палоненыя слодыччу кахання.
П'яніць нас ноч, як пахкае віно,
І не дае заснуць ажно да рання.

Юнацтва... згадкі... малады наіў...
Ці калі-небудзь здолею забыцца,
Як прагна я з тваіх далоняў піў
Лятунак ночы... І не мог напіцца.

**ГОСЦЯ**

Ледзь поўнач прыйшла, на халоднай падлозе
З'явілася постаць чыясь і ў знямозе

На ложак, што мятай прапах і крухмалам,
Бясшумна на коўдру халодную ўпала.
І пальцаў адчуў я загадкавы дотык,
І цела, прапахлае лесам і потам,
І вуснаў дыханне, што ў чорнай цямрэчы
Агнём апяклі мне шыю і плечы.
І сэрца маё паланіла знямога,
І сцены наўсцяж паплылі і падлога.
І я прашаптаў ў забыцці і адчаі
Збалелымі вуснамі: „Чуеш, кахаю!..”

Чуць сонца кранулася промнем фіранак,
Нячутна пайшла тая госця у ранак,
На ложку пакінуўшы побач са мною
Букецік рамонкаў, пах мяты і хвоі.

## III

*
Ціша... Чую плач сірочы.
Мроя гэта альбо не?
Стодзіваў паганскіх вочы
Пазіраюць на мяне.

Быццам цень лясной гадзюкі —
Ноч... Малюся ёй у сне.
Стодзіваў паганскіх рукі
Абвіваюць зноў мяне.

Што за жахі, за хімеры?
Ноч куды мяне жане?
Стодзіваў паганскіх вера
Усяляецца ў мяне.
Ажываю, апантаны,

Апякае болем скронь.
Я цяпер і сам паганец,
З тых, што кінуты ў агонь.

## ЗНІЧ[1]

Чуеш подых гарачы агню
І ахвяраў гарачыя крыкі?
Бачыш духаў знямелыя лікі?
Гэта ЗНІЧ зноў прыйшыў на зямлю.

Ён не чэпіць адвечнай красы.
Ён з'явіўся на нівы і пушчы,
Каб ачысціць ад хлуду лясы
І ад бруду змярцвелыя душы.

Вось вымае агністы свой меч,
І няма ад яго паратунку.
І бягуць „душы мёртвыя” прэч,
Спехам кінуўшы грошы і клункі.

## МАРА

---

[1] Зніч — святы агонь у старажытных славян.

У адведкі з'яўляецца ўночы
Галаскурая здань да мяне.
І агнём яе свецяцца вочы,
І плыве яе цень па сцяне.

Аняменне і холад на твары.
Серабрыстая рунь валасоў.
Шэпчуць вусны замовы і чары,
Слых чаруе мелодыя слоў:

„Спі... Засні... Будзе вечнай самота...
У журбу адыходзь пакрысе...”
Твар знікае... Ашчэраным ротам
Ведзьма кроў з майго цела ссе.

## ЧАРНАБОГ

Калі, зняверäны, губляю я надзею
І мроіцца, што час прайшоў дарма,
Тады прыходзіць ЁН... І ў сэрцы смутак сее,
І дух не выпускае мой з ярма.

Зрадніўся ён навек з маім дыханнем,
І з розумам з'яднаўся ён маім,
Ён усчынае здзек з майго кахання,
Яго святлом напоўніўшы чужым.

Варушыцца ўва мне клубок пачварны
Хлусні яго атрутнай і жуды.
Збавення я прашу... Ды гэта — марна...
І ўпрочкі ад людзей бягу тады.

## ПЕРАПЛУТ[2]

Па горадзе пустым я брыў у позні час...
У лужынах адбіткі зор мігцелі,
І святлафор запальваўся і гас,
І нада мной плылі нямыя гмахаў цені.

І ў гэты міг паміж бязважкіх хмар
Убачыў панны я увасабленне:
Яна плыла, далёкая ад тлення,
І яснай пекнатой яе свяціўся твар.

І затрымцеў я смуткам трапяткім,
Убачыўшы ўсё гэта... І здалося:
З зямлёю неба у адно злілося
І я адчуў цяпло яе рукі.

Ды раптам дзікі смех развеяў дзіўны сон,
І я пачуў у небе крык савіны,
І дзеда разглядзеў: між хмар куляўся ён,
Там, дзе плыла дзівосная дзяўчына.

---

[2] Пераплут — Бог весялосці, аматар выраблягь усялякія жарты.

**ДЗІЎ**

1
І вечар быў… Я развітаўся
З краінай цемры і маны.
У родны горад зноў вяртаўся
З чужацкай змрочнай стараны.

Наўкол быў вэрхал і пажар.
На пляцы там, сярод народу,
Спазнаў ягоны мужны твар:
То ДЗІЎ быў — Бог зямлі і роду.

У цьмяным бляску ліхтароў,
Дзе трызны музыка гучала,
Канаў на пласе ён, і кроў
З ягоных ран на дол сцякала.

2
Увесь у чорнае адзеты,
Там кат крычаў: „О вы, паэты,
Зямлі нікчэмныя рабы —
Нашчадкі смутку і журбы.

Вы, што завецеся НАРОДАМ,—
Усе паслухайце мяне.
Ён, як і вы, хацеў свабоды,
Цяпер няхай навек засне”.

3
…І грудзі катаў меч рассек…
Ды у апошняе імгненне
Ўскрыкнуў ДЗІЎ: „Найгоршы здзек
Жыць і памерці на каленях.

Ты — раб маны і ўзнагароды,
І мне шкада цяпер цябе.
Ніколі ты не знаў свабоды,
Здабытай ў цяжкай барацьбе…”

Калі ж навек заплюшчыў вочы
І ў небыццё сплылі ўсе дні,
Пачулі крык яго прарочы,
Што знекуль падаў з вышыні.

То — небыццё пракляўшы — ДЗІЎ,
Забіты катамі, ажыў.

4
Быў дзень. Я ў сад пайшоў зялёны
Да зруйнаваных кляштароў.
Вітаў над светам дух ягоны^
Між сцен знямелых і муроў.

## ЧЫРВОНЫЯ КАМЯНІ

Балада

*Аб крывавых хрэсьбінах тураўцаў сведчыць легенда аб чырвоных камянях, якія прыплылі па рэчцы ў горад, у чым несумненна чуецца памяць аб разні...*
У. Тарасаў. Памяць аб легендах

Ляцелі на дол галовы,
Груган над зямлёй кружляў.
„Дазволь мне вымавіць слова,—
Князю валхвец сказаў.

— Я смерці сваёй не баюся,
Не страшыць смяротная золь.
Ды толькі з Белаю Руссю,
Мой князь, развітацца дазволь...”

Ды князь не пачуў тыя словы,
І каты мячы узнялі...
Няскораных продкаў галовы
Па хуткай рацэ паплылі.

У светлых, шыкоўных каморах
Ноч князь балявау і дурэў.
Уранні, прачнуўшыся, горад
Ад жаху ажно знямеў.

Як сімвал святога наймення
Наўзбоч княжых хат і двара
На беразе стыла каменне —
Чырвонае, быццам зара.

І прысакам ля папялішча
То тут прарастала, то там.
Разбіць на кавалкі і знішчыць —
Такі быў загад ваярам.

Калі ж пасля змрочнае ночы
Зямлю азарыла святло,
Убачылі Князевы вочы —
Каменняў шчэ больш, чым было.

І стогны пачуў ён і крыкі.
Праз жаху смяротнага золь
Жывыя шапталі: „Вялікі!..”
І чулася мёртвых: „Дазволь...”

## КАВА[3]

Мне сніўся сон: на полі сечы,
Дзе бітва жорсткая была,
Знянацку мне ўпілася ў плечы
Чужынца вострая страла.

І вочы мне заслала мглою.

---

[3] Кава — у славян Бог вайны.

І голас ратных згукаў сціх...
Крыжак спыніўся нада мною
І вырваў дзіду з рук маіх.

І я з палонам прымірыўся:
Што спадзявацца мне на цуд?
Ды ЁН перада мной з'явіўся
І рукі вызваліў ад пут.

І так сказаў: „Я грозны КАВА.
Нягожа быць табе рабом.
Вось меч. Або памры са славай,
Ці будзь заўжды папіхачом!”

І сілу я адчуў і рушыў
Туды, дзе жорсткі бой кіпеў...
І за сабою чуў я мужны,
Непераможны зычны спеў!

**СВЕЧКА**

Свечку запалю. Успыхне кволае цяпельца агню.
І пабягуць няўлоўныя цені духаў па шпалерах,
па падлозе, па мне. Расплаўлены воск апячэ
мне далоні. І я перасялюся ў свечку і ўспыхну
яшчэ ярчэй. У шалёным танцы замітусяцца
па пакоі духі. І народзіцца музыка.
Заплача душа. Слёзы яе воскам будуць сцякаць
на падлогу, плоць будзе біцца ў шалёным
танцы музыкі, пакуль не растане зусім.
Калі надыдзе дзень, я зразумею, што мяне больш
няма, я згарэў дарэшты. На золку
з'явіцца гаспадар і выкіне расплаўлены воск.
І ніхто не заўважыць, што няма мяне,
ніхто не пачуе, што не гучыць музыка.

*

Над горадам сонным — змярцвенне,
і ціша, і змрок,
І толькі ў замглёных нябёсах,
ледзь бачная воку,
Мігціць адзінокая зорка далёка-далёка,
І ветрык шапоча, і чуецца шолах здалёк...
То недзе ў сутонні лятуть адзінокія птахі
Да зорак далёкіх, каб з вечнасцю зліцца навек.
То — душы людскія. У свет,
дзе не помняць пра жахі,
Плывуць, каб на хвілю забыцца пра здраду
і здзек.
А я вось — адзін. Толькі ноч
і змярцвенне навокал.
Па вулцы знямелай іду я ў начной цішыні.
І мроіцца мне: там, у небе, далёка-далёка
Бялюткія птахі запальваюць зорак агні.

*

Штовечар, калі ноч рукой халоднай змроку
Запальвае ў нябёсах зор агні,
Іду я на клады, ад дому недалёка,

Каб аднаму пабыць у цішыні.

Каплічку праміну, знямелы крыж, што збоку
Ад часу спарахнеў. Тут подпісы радні
Пасцёртыя, майму не бачны зроку.
Тут у нябыт плывуць павольна дні.

Усё тут навакол жальбой і жахам вее,
Ды сэрца не гняце відовішча яго,
Бо розум мой прамень надзеі грэе,

Што жыць мне на зямлі яшчэ не дзень, не год.
Калі душу маю пакіне ўсё ж надзея,
Спачну я там, дзе край мой і народ.

**Васіль ДЭБІШ**

# БЕЛЫЯ ПТАХІ

*

Юнацтва... Першы дзень вясны
І нашы школьныя зарніцы.
У рэчцы глухнуць перуны,
Цалуюць дрэва навальніцы.

На пожні босыя сляды.
Над рэчкаю вясёлка ззяе.
У малацэ густым сады,
І ўсё ў садах нам спагадае.

І пах сукенкі ільняны,
І рук маланкавая повязь.
Юнацтва... Першы дзень вясны.
Каханне першая аповесць.

## НОЧ

Дзень адышоў беззваротна.
У бязмежнай прасторы
Зорак далёкіх халодныя стынуць скрыжалі.
Дрэваў самотных зіхоткае вецце і горад
Хутае вечар у змрочныя, чорныя хвалі.
Зноў я адзін. На душы так трывожна і светла.
Вочы заплюшчу — і прыйдзе спакой і адхланне.
І ноч нам запаліць рукою зіхоткаю ветах —

Агонь велікодны ў бажніцах КАХАННЯ.

*
Я думаў, Я верыў — пральецца святло,
Спазнаю тады я зямнога жыцця вымярэнні.
І зорная ноч залюляла мяне, і прыйшло
І зроку майму, і душы азарэнне.

Я твар яе ўбачыў, ад сонца самога святлей,
І голас яе быў спакойны і ясны.
Плыў смех навакол і шчаслівых і мужных людзей.
І гэтулькі побач — пакрыўджаных, хворых,
няшчасных

У міг той зліліся ў адно ноч і дзень,
З пяшчотаю — чэрствасць людская
і з радасцю — гора
Тады зразумеў: я жыцця толькі кволы прамень
У гэтай вялікай і вечнай прасторы.

*
Люты. Снегу навалiла.
Гурбы вежамі стаяць.
Чорныя раскінуў крылы
Змрок. І толькі ты і я.

Толькі ты і я. Навокал
Ні душы. Сцюдзёны б'е
Вецер твар. Цалую шчокі,
Вусны я лаўлю твае.

Тае снег незацвярдзелы.
Ноч. І толькі ты і я.
Толькі вуснаў шэпт нясмелы:
— Любы!
— Любая мая!

## У КАСЦЁЛЕ

Хрыстовы крыж пацалавала
У чорнай вопратцы жанчына,
У зале музыка гучала
Самотна, светла, безупынна.

Здавалася, быў голас Боскі
Чуцён. І спазнаваў я Бога
Слязою, што сцякала з воску
На зледзянелую падлогу.

І паміралі краскі лета,
Ды нараджаліся нанова...
І неба грукала ранетам,
і грукат прарастаў у словы.

*
Праз морак журбы і адчаю
Я вяртаюся ў горад пусты.
Ціха як навакол. Ападаюць
З дрэваў чорных, згалелых лісты.

На сівую ад пылу дарогу,
На халодны і выстылы дол.
Прамінула, няма анічога.
Толькі змрок. Толькі пустка наўкол.

*

Вяргіні.
                    Пах бялізны.
                                        Ранак.
Вы маўчыце...
                    Не трэба слоў.
Час настаў. Бывайце, панна.
Стаміўся я ад зорных сноў.

Быць не баюся пакаянным.
Тапіў свой сум я у віне.
Я Вас кахаў, прабачце, панна.
Ды страшны стаў ваш замак мне.

Дождж б'е па шыбах апантана.
Адчай і роспач на душы.
Бывайце... Не забудзьце, панна,
На вокнах свечкі патушыць.

*

Паміж яваю і сном
блукае самотным пілігрымам
мая збалелая душа,
шукаючы выйсця
з лабірынта марнасці і спадзяванняў,
цемры і святла.
Пакаянная і грэшная,
на вагах жыцця і смерці,
спаміж „але” і”не”.

**ЗАМКІ**

Кажуць мне, што свет цяпер такі
І для смутку тут няма прычыны.
Толькі раняць сэрца мне замкі
На дзвярах, на куфрах, на машынах.

На замок — арган і спеў сурмы,
Бо й за песняй злодзей мо палезе?
Страшна мне, што й душы можам мы
У халоднае замкнуць жалеза.

**ПАГОНЯ**

Сціхае гулкі звон „Пагоні”,
І прытупіліся мячы.
Хрыпяць здарожаныя коні.
Як нам сябе перамагчы?

Ды цепліцца шчэ ў сэрцы вера.
Ты чуеш, дружа, кліч сурмы?
Тады наперад і наперад,
Пакуль народ не знойдзем мы.

Дзень новы над зямлёй усходзіць.
Або знайсці, або сканаць...
Ляцець, ісці... І праз стагоддзі,
І ў вечнасці — шукаць, шукаць.

*

У тлуме дзён пустых згубіўся час.
Як цяжка стогне вецер у каміне.
Агонь гарэць стаміўся і пагас.
На прысальніку попел белы стыне.

Ды недзе там, на самым-самым дне
Каміна, прытаіліся сіроча
І ўсмешку змоўніцкую дораць мне
Жарынкі дзве, нібы каханай вочы.

*

Ападаюць жоўтыя лісты
На размытую дажджом дарогу.
Гэткая няўцямная трывога!
Дзень быў і халодны і пусты.

Добра, што ён зараз дагарыць.
Дрэў панурых нежывыя цені...
Маці моўчкі падмятае сені,
Быццам вымятае дзень стары.

*

Прыцемак шэры стаіўся на дне цішыні.
Шолах лісця. Зор зіхоткія стынуць агні.
Бляск ад кастра па-над цёмнай,
здранцвелай вадой.
Пахне аерам зямля і зялёнай травой.

Вёска... Маленства. Над рэчкаю сцелецца дым.
Мне ўсё здаецца цяпер несапраўдным, чужым.
Скруха наўкол, запусценне,
пустэча — хоць плач.
І нада мною, між хмараў далёкіх, крумкач
Змрочны
кружляе злавесна.
Свой чорны убор
Ценем маім на халоднай зямлі распасцёр.

## БЕЛАРУСКІ ТРЫПЦІХ

***1. Белавежа***

Квітнеюць тут паданні даўніх дзён,
Зуброў я гордых бачу на паляне.
Нібыта здань, плыве ў густым тумане
Разбураны палац. Суровы звон

Сляпых байніц. Варон крыклівых зграя
Злавесна кружыць між нямых абшараў...
На небе недзе, між халодных хмараў,
Над пушчаю свяшчэнны ЗНІЧ палае.

***2. На замчышчы***

Прамільгне і знікне продка цень

У Бажніцы перад Дзевы стодам.
Белы дзень твой і твой чорны дзень
Зруйнаваны ў гэтых сценах, зводах.

Тут даўно ачах бунтарны дух,
Знікла слова, што вякамі спела.
Ды не скіне вой цяжкі ланцуг,
Кат не вырве крык з душы збалелай.

На Дзвіне, на Грунвальдскіх палёх,
На Нямізе, над Вадою Сіняй
Не адзін з тваіх сыноў палёг...
Ды вяртаюцца яны к табе, Радзіма?

***3. Паходня***
Чырвоная поўня ўзышла над Гародняй.
Такая навокал трывожная ціш!
Між сённяшнім днём і мінулым, ПОХОДНЯ,
Ты з попелу ўстала і зырка гарыш.

Гляджу на агонь — і ў душы маёй ясна,
І верыцца ў шчасця грымотны разбег...
Гарыць наша памяць агнём непагасным
У мужнай руцэ, што трымае цябе.

*

Адчэплены вагон. І горад сонны.
Цікуюць змрок вачніцы аўтаматаў.
Не уцячы, не вырвацца з палону.
Год 37-мы. Лета. КУРАПАТЫ.

Я падаю... Мой рот пяском набіты.
Глухія стрэлы не змаўкаюць. Дзе я?..
У страшным трыццаць сёмым я забіты.
Паўстаў з нябыту ў 89-м...

Ізноў світанак. Неба чырванее.
Год 90-ты. Лета. КУРАПАТЫ.

**АПОШНІ ТУР**

Калі на дол бязважка ноч упала
І ўсё вакол ахутала імгла,
Яго арда чужацкая дагнала —
і цішыню прарэзала страла.

І рухнуў тур сваім магутным целам
У забыцці на набрынялы снег.
З усмешкаю шалёнаю глядзела
Арда, як ён канаў у страшным сне.

І плыў да зор плач пераможны лютні,
І месяц адзінока ў небе плыў.
Ды ён падняўся, горды і магутны,
І кліч смяротны пушчу аглушыў.

Стамлёныя іржалі дзіка коні,
Сцякала ў снег і астывала кроў...
І плакаў я... Мне снілася пагоня
І горды тур — апошні князь лясоў.

## ДАЖДЖЫ

Цябе няма. І трэба жыць...
Сціскаю пальцы ледзяныя.
Дажджы, ізноў ідуць дажджы.
Вятры халодныя і злыя.

Былога не вярнуць. Ілгаць,
Што нешта збудзецца, не трэба.
Як дождж, я сам. І чорным небам
Навісла нада мной журба.

*
Дарога. На дарозе снег.
Нічога больш. Кальнуў па воку
Мароз кудлаты і пабег
Гуляць у хованкі са змрокам.

Пагас ліхтарык. Хоць ты плач.
Я адубеў. А вецер свішча.
Завея вые і наўскач
Імчыць па белым папялішчы.

Аледзянелых крокаў звон...
З другім Вы... Я, адчаю поўны,
Пакінуў Вас... А наўздагон
Ваш смех ляціць,
Ды ён — ратоўней.

*
Паненка з чорнаю касою,
Пра што сумуеш сярод ночы,
Не змружыўшы да рання вочы,
Паненка з чорнаю касою?

Ці не аб днях мінулых мроі?
Іх мы пазбудземся аднойчы.
Паненка з чорнаю касою,
Ты усміхніся сярод ночы.

## ЭЦЮД

Над намі — бездань. Вецер смутна
Шапоча. Дрэўны стыне звон.
Зусім сляпая ноч нячутна
Брыдзе па вулках і з вакон

Святло страсае. Пахам ліпаў
І груш напоўнены сады...
Букет бялюткіх руж рассыпаў
На небе месяц малады.

## АХОЎНІК

Чую смех я ягоны і кпіны.
Я — з натоўпу, а ён — мой важак.
І бізун па пакорлівых спінах

Злосна свішча... Пустэча і жах

У кашары халоднай і змрочнай.
І няма тут святла анідзе.
З асалодай драпежнай, бы лоўчы,
Мой важак паляванне вядзе.

Я бягу. Дзень крывёй дагарае.
І з чырвонаю зоркай салдат
Мяне ў спіну прыкладам піхае
У сырую кашару,
назад.

**АПОШНІ ЯЗЫЧНІК**

Званоў трывожнае літанне,
Палонных крык, сабакаў брэх.
І боскі жах, і спавяданне
Драўляных ідалаў... Памрэ

Ахвяраю перад світанкам
Ён, патушыўшы малады
Агонь. І вобразы паганскіх
Багоў з ім знікнуць назаўжды.

І попел па зямлі развее
Злы вецер. Ляжа чорны дзень
На дол. І трошкі свет збяднее,
Калі памрэ і гэты дзень.

*
Зазіраю ў заўтра я — цямрэча.
Навакол нікога — ноч і змрок,
Толькі на стале трапеча свечка,
Бы ў сіло спайманы матылёк.

Ані зоркі. На засовы дзверы,
Шоргат ног, і рогат за сцяной.
Нібы звер загнаны, па кватэры
Ў спаняверцы сум блукае мой.

Чорны змрок ахутаў лес і нівы,
Ў цемнаце не адшукаць дарог...
Толькі ветру плач такі шчымлівы
А ў душы — мінулае і Бог.

*
Не трэба слоў. Ты ведаеш сама,
Што я цябе, як і раней,кахаю.
Ды марна ласкі я тваёй чакаю.
Не трэба слоў. Ты ведаеш сама.

Душа світальнай зоркай дагарае
І плача за акном маім сурма.
Не трэба слоў. Ты ведаеш сама,
Што я цябе, як і раней, кахаю.

*
Вясновы мляўкі пах. І на асфальце ружы.
Не, сёння не пайду, бязвольны, за табой.

Застацца не прашу. Бывай...
цяпер я дужы
І цень свой забяры,
забыла цень ты свой.

*
Ты — лялька. І жыццё тваё гульня.
Але я знаю нешта... я прыкмеціў...
Смяешся ты над бедамі штодня,
І плачаш ты, як могуць толькі дзеці.

*
Бывае так, напэўна, толькі ў верасні:
Туманамі засцелюцца палі,
Такая цішыня, ажно не верыцца,
Што нешта ёсць жывое на зямлі.

Ды раптам блісне неба недалёка,
Самотна брамка ў сенях зарыпіць.
І застракоча за ракой сарока,
І кнігаўка заплача звонка: „Піць!”

**БАГРЫМАВА ЖАЛЕЙКА**

Вазьму ў рукі жалейку, зайграю,
Хай развеецца ноч хоць на міг.
Як жывецца табе, родны краю,
Краю смутку і песняў чужых?

Што вам сніцца, лугі і палеткі,
Мой далёкі, блакітны мой свет?
Я прыйшоў да цябе не ў адведкі,
Родны сын твой, каваль і паэт.

На ганенні, пакуты абраны,
Вам матуліна слова збярог.
У ланцуг небыцця закаваны,
Я вярнуўся з расстайных дарог.

Чуеш, краю, жалейка іграе.
Прачынайся ад доўгага сну.
Цішыня над Радзімай якая!..
А жалейка гукае вясну.

*
Каму маліцца мне, якім багам?
Да храма душ як адшукаць дарогу?
Нашто, скажы, такі патрэбен храм,
Дзе людскага няма даўно ўжо бога?!

Дзе ўзводзяць фігляроў у святары
І веру замяняюць подлым страхам.
Пакіну дом, няхай агнём гарыць —
Падамся ў свет, адзеўшы апранахі.

Пустэльнікам самотным па зямлі
Блукаць. Бо тут забыліся пра БОГА.
Мне не патрэбен храм такі, калі
Ён для абраных служыць, для нямногіх.

## МАСКІ

Мне сніўся масак карагод —
Я сярод іх пазнаў Дракона.
Пагардліва глядзеў ён з трона
На свой пакорлівы народ.

„Гэй вы, сляпыя і глухія,—
Я крыкнуў,— гляньце навакол”.
І маску з твару зняў сляпы я
І злосна шпурлянуў на дол.

Крычалі ў спіну мне клікушы —
Вар'яцтва не іначай плод...
О, Божа, ты вярні ім душы...
Пустыня... Змрок... Халодны лёд...

...Я плакаў... Бедны мой народ!..

## АПОШНЯЯ НОЧ К. КАЛІНОЎСКАГА

За акном — малады зарапад,
За акном — і сябры і воля.
З-за турэмных не выйсці крат
І Марысі не ўбачыць болей.

Як ты будзеш, о мой народ!
Без мяне хто цябе абароніць?
Заўтра здушыць вяроўка рот...
А душа паляціць ПАГОНЯЙ!

## ЯНЫЧАРЫ

Ім сказалі:
— Бярыце мячы і ідзіце.
Там няправільнай веры і мовы народ.
Падзяліце дабро, а багоў іх спаліце,
У рабоў абярніце нікчэмны іх род.

Не шкадуйце нікога, бо кожны з іх вораг,
І жанок, і дзяцей напаіце крывёй...
Без дарогі пайшлі з векавою пакорай
На Радзіму звяўчэлаю зграяй сляпой.

Пассякалі лясы, а народ шматпакутны
На чужыну пагналі з бацькоўскай зямлі.
Засмярдзела навокал паветрам атрутным,
Абярэгі насеннем пустым парaслі.

І пакрыліся цвіллю крыніцы. І нівы
Зніклі ў цемрадзі чорнай, нішчымнай начы,
Час спыніўся... І крыкам трывожным, пужлівым
Патанулі ў нябёсах глухіх крумкачы.

Прытамілася секчы галовы сякера
Непакорлівых. І дагараў далягляд,
І прымалася мова чужая на веру,
І над родным смяяўся бязродны вар'ят.

## НА ДНЕ ЛЮСТЭРКА

На дне люстэрка нечы твар
Застыў халодны і нямы,
Нібыта водбліскі зімы,
На дне люстэрка нечы твар.

Мо гэта прывід нашых мар...
Пагоркі, вулачкі, дамы,
Пакой, люстэрка, плач сурмы,
А сярод іх — каханай твар.

*
Ты — неба, а я — зямля.
Нам не жыць адно без аднаго,
Але ніколі нам не быць разам.
Таму, што ты — неба, а я — зямля.

## СВЕТЛЯЧКІ

Здавалася, што свет аглух наўкол.
Так ціха стала. Дробны дождж пайшоў.
Ды лес ажыў ад сотні светлячкоў,
І ўспыхнуў полымем зялёны мох.

Здалося мне ў дзівосны гэты міг.
Што душы продкаў ажывілі іх.

*
Кажу сабе: ты дрэннае забудзь.
На свет вачыма Радасці зірні.
Гады твае, бы хмаркі, праплывуць,
Растануць свечкаю таемнай дні.

І ахінецца цемраю чало...
Кахай, твары, пакуль на свеце ёсць
Вачэй тваіх агністае святло.
І, нібы сонца, грэе маладосць.

© OCR: Камунікат.org, 2015
© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2015
© PDF: Камунікат.org, 2015

## З М Е С Т

**Анатоль ДЭБІШ. Калядная вячэра**
I
Маленства
***Зімовых вечароў сняжок згусцелы…
***Майстэрня на вуліцы Скарыны…
Калядная вячэра
Сячкарня
***І думнасць спраў, і думак чысціня…
Ноч
***Храма нябескія рысы бачу праз кужаль…
Меч
Час
***Восень. Ціша. Ні гуку… .
У склепе
Вецер
На мальберце
***І тлумна, і сумна навокал…
***І раптам небасхіл хіснецца на імгненне…
Балада пра волатаў
Нашчадак
***Ліецца спеў святога хору…
Раб
Курапаты-37
II
Цені
Жывапіс
Ля пабітага люстэрка
Расстанне
Два галасы
***Прыйшла… І супыніла часу рух…
Госця
III
***Ціша… Чую плач сірочы…
Зніч
Мара
Чарнабог
Пераплут
Дзіў
Чырвоныя камяні. Балада
Кава
Свечка
***Над горадам сонным — змярцвенне, і ціша, і змрок…
***Штовечар, калі ноч рукой халоднай змроку…

**Васіль ДЭБІ Ш. Белыя птахі**
***Юнацтва… Першы дзень вясны…
Ноч
***Я думаў, я верыў — пральецца святло…
***Люты. Снегу навалiла…
У касцёле
***Праз морак журбы і адчаю…
***Вяргіні. Пах бялізны. Ранак…
***Паміж яваю і сном…
Замкі
Пагоня
***у тлуме дзён пустых згубіўся час…
***Ападаюць жоўтыя лісты…

***Прыцемак шэры стаіўся на дне цішыні...
Беларускі трыпціх
***Адчэплены вагон. І горад сонны...
Апошні тур
Дажджы
***Дарога. На дарозе снег...
***Паненка з чорнаю касою...
Эцюд
Ахоўнік
Апошні язычнік
***Зазіраю ў заўтра я — цямрэча...
***Не трэба слоў. Ты ведаеш сама...
***Вясновы мляўкі пах. І на асфальце ружы...
***Ты — лялька. І жыццё тваё гульня...
***Бывае так, напэўна, толькі ў верасні...
Багрымава жалейка
***Каму маліцца мне, якім багам?..
Маскі
Апошняя ноч К. Каліноўскага
Янычары
На дне люстэрка
***Ты — неба, а я — зямля...
Светлячкі
***Кажу сабе: ты дрэннае забудзь...

Літаратурна-мастацкае выданне

КАЛЯДНАЯ ВЯЧЭРА
Вершы
ДЭБІШ Анатоль Іосіфавіч

БЕЛЫЯ ПТАХІ
Вершы
ДЭБІШ Васіль Іосіфавіч

Мінск, часопіс „Маладосць”, на беларускай мове
Галоўны рэдактар Г. Далідовіч
Рэдактар К. Камейша
Стыльрэдактар В. Башан
Мастак М. Шматава
Мастацкі рэдактар В. Казлоў
Тэхнічны рэдактар В. Марынчанка
Карэктар Н. Доваль
Адрас рэдакцыі:
220041, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Здадзена ў набор 04.12.91. Падпісана да друку